# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 52 (617) ГОД XII 24 СНЕЖНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### КАМІСІЯ ПРАПАГАНДЫ

8-га снежня адбылося пасяджэнне Камісіі прапаганды ГП БГКТ. Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі раздзелы зместу, якія павінны знайсціся ў беларускім календары на 1969 год. На пачатак 1969 года прыпадае 50-тая гадавіна БССР, таму публікацыі календара будуць пачынацца матэрыяламі аб Савецкай Беларусі. Між іншым у беларускім календары знойдуцца матэрыялы: этнаграфічныя, аб музеі БГКТ у Белавежы, з жыцця БГКТ, раздзелы пад загалоўкамі: «Юбілеі», «У дапамагу самадзейнасці», матэрыялы гаспадарчага характару, практычныя парады і іншыя.

У сувязі з тым, што кожны год ГП БГКТ мае на выдавецтва 200 тысяч злотых, якіх заўсёды не хапае на патрэбы нашай арганізацыі, неабходна было ўстанавіць чарговасць паасобных выданняў. І так, Камісія прапаганды пастанавіла ў першую чаргу выдаць пласцінкі з песнямі Міхася Забэйды-Суміцкага, беларускі каляндар на 1969 год, «Гутаркі па роднай гісторыі» — Міколы Гайдука і зборнік вершаў «Жнівень слоў» — Алеся Барскага.

У далейшым плане выдавецкая камісія прапануе выдаць «Зборнік песень для дзяцей» — Эдуарда Гойліка (вершы Віктара Шведа), зборнік вершаў Янкі Чыквіна, аповесць «І насталі дні» — Сакрата Яновіча і навуковы зборнік.

### ГУРТОК БГКТ У ГДАНЬСКУ

1 снежня ў Гданьску арганізаваўся гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства, у склад якога ўвайшло 60 асоб. На гэтым арганізацыйным сходзе было выбрана праўленне гуртка, якое ўзначаліў Мікалай Савіцкі. Сваёй аддзельнай сядзібы гурток БГКТ пакуль што не мае. Карыстае ён з памяшкання Ваяводскага праўлення Украінскага грамадска-культурнага таварыства. Яго адрас: Гданьск, вул. Длугі Тарг 9/10. Тэлефон 31-58-78.

### РАЗВІВАЙЦЕ МАСТАЦКУЮ САМАДЗЕЙНАСЦЬ

Зімовы перыяд найбольш спрыяльны да мастацкай самадзейнасці. У многіх вёсках моладзь рыхтуе п'есы да выступлення на сцэне сваёй вёскі на праваслаўныя каляды і іншыя святы.

Вельмі часта так здараецца, што драмгурток выступіць адзін раз у сваёй вёсцы і больш ужо не выступае і аматарскі калектыў распадаецца. І гэта дрэнна. Дрэнна таму, што шкада вялікай ахвярнай працы моладзі, шкада іх падрыхтоўкі. Бо не мала часу трэба на вывучэнне роляў, на аматарскае рэжысёрскае ўпарадкаванне вывучанага.

Чаму б з падрыхтаванай пастаноўкай не выступіць у суседніх вёсках? Чаму б не паказаць сваіх артыстаў шырэйшаму кругу людзей? А ўсім вядома, што мастацкая самадзейнасць, асабліва на беларускай мове, заўсёды карысталася і карыстаецца на нашых вёсках вялікім зацікаўленнем.

І яшчэ адна справа. Ужо традыцыйна, кожны год Беларускае таварыства праводзіць, пачаткова павятовыя, а потым у Беластоку, агляды драматычных гурткоў. На гэтыя агляды прызначаюцца значныя сумы грошай на ўзнагароды.

Чаму б усім драмгурткам не ўзяць удзелу ў павятовых аглядах мастацкай самадзейнасці? Чаму б не змерыцца сіламі і здольнасцямі са сваімі сябрамі з іншых вёсак?

У кожным павеце ў зімовы перыяд дазолі многа арганізоўваецца драмгурткоў, але ўжо пад вясну (бо тады адбываюцца агляды) існуе іх нямнога, а бярэ ўдзел у аглядах яшчэ менш.

Вось таму ад імя ГП БГКТ звяртаемся да моладзі з заклікам: кожны сарганізаваны бярэ ўдзел у аглядах мастацкай самадзейнасці, якія арганізуе БГКТ.

М. Х.



Вёска Сакі ў Гайнаўскім павеце схавалася ад людскіх вачэй за ўзгоркамі ў жывапіснай даліне ракі Белай. Фота В. Рудчык

### ГУТАРКІ ПАД КАНЕЦ ГОДА



## КРЫХУ ВЯЛІКАЙ ПАЛІТЫКІ АБ МАЛОЙ ВЁСЦЫ

Пад канец года, пры аказіі святочных парадкаў, любім пагаварыць аб справах найважнейшых для сучаснасці і будучыні нашай вёскі. Нас моцна кранаюць гэтыя справы, хочам ведаць, што, як і чаму? І што ад нас залежыць? Кожны імкнецца да яснага разумення свайго месца ў жыцці.

Вёска і яе людзі. Ад вёскі і яе людзей, проста ад вясковых людзей залежыць будучыня эканомікі Беласточчыны. Гэту праўду трэба сказаць і паўтарыць яе з цэлай яснасцю — аб будучыні Беласточчыны не рашае і не будзе рашаць горад па той простай прычыне, што наша ваяводства не мае адпаведных умоў да буйнага развіцця прамысловасці. Ключ да будучыні Беласточчыны, да будучыні самога Беластока і яго значэння знаходзіцца ў вёсцы. Толькі ў вёсцы.

Гэту праўду з усёй сілай падкрэслівае пяцігадовы план гаспадарчага развіцця Беластоцкага ваяводства ў 1966—1970 гадах. Важнейшыя заданні, якія пастаўлены пяцігодкаю перад нашай вёскай, гэта павышэнне ўраджайнасці бульбы і цукровага бурака, а таксама збожжа. Будзе гэта магчымае дзякуючы паляпшэнню гатунковасці пасяўнога матэрыялу, павелічэнню колькасцей ужываных мінеральных угнаенняў і ўзмацненню барацьбы са шкоднікамі палёў. Бульба, цукровы бурак, збожжа — вось аб чым павінна быць цяпер найгаласней. Чаму найгаласней? Бо гэтыя сельскагаспадарчыя культуры маюць цалкам рэальныя шанцы — асабліва, бульба — на нашых небагатых землях.

Найбольш вялікай перспектывай для нашай сельскай гаспадаркі з'яўляецца жывёлагадоўля, але для таго патрэбна яшчэ часу, каб стварыць адпаведныя ўмовы яе развіцця. Вопыт рэалізацыі папярэдняга пяцігадовага плана гаспадарчага развіцця Беласточчыны паказаў, што недастатковы рост жывёлагадоўлі будзе ў нас з'явай досыць працяглаю. Пакуль што маем усё яшчэ нізкія накосы сена нават на меліяраваных сенажацях: лугаводчая культура амаль невядомая нашым гаспадарам. Мала хто будуе добрыя хлявы, перад усім, па прычыне недахопу будаўнічых матэрыялаў, а нават крэдытаў. Мясцовая прамысловасць будаўнічых матэрыялаў не пакрывае нат' часткі патрэб на гэтыя матэрыялы, якія ў значнай меры давозяцца з іншых ваяводстваў — напрыклад, цэгла давозіцца аж з-пад Вроцлава, дзе існуюць вялікія цагельні. Недахоп корму і памяшчэнняў не спрыяе гадоўлі пародзістай (і даходнай) жывёлы. Тым часам з году ў год узрастаюць патрабаванні гандлю што да якасці жывёлы, прызначанай на мяса, для патрэб унутранага і замежнага гандлю. Што горш, існуючыя на нашай тэрыторыі малачарні не маюць магчымасці прыняць нават той колькасці малака, якую могуць прадаваць нашы гаспадары ад сваіх мізэрных каровак. Словам, падажа малака перарасла папыт на яго, што таксама кепска ўплывае на зацікаўленне гаспадароў жывёлагадоўляю.

Аб жывёлагадоўлі, як аб вялікай перспектыве гаворыцца тут невыпадкова: у некаторых нашых ваколіцах пашы і лугі — меліяраваныя і немеліяраваныя — займаюць часта палавіну сельскагаспадарчых абшараў.

Нявыкарыстанай у нас магчымасцю паляпшэння быту вёскі з'яўляюцца сельскагаспадарчыя гурткі. Калі гаворым аб гуртках, адразу думаем аб машынах. Так яно і павінна быць: без машын не даб'емся лепшых вынікаў на нашых гаспадарках, гаспадаранне старым спосабам адбірае многа часу і сіл у першую чаргу. Знясілены гаспадар — гэта безнадзейны гаспадар. Але пакажыце мне такога гаспадара, які здольны будзе купіць усе патрэбныя сельскагаспадарчыя машыны!? Такіх гаспадароў у нас няма, або ёсць іх мо пяць, мо дзесяць, на ўсе нашы ваколіцы. Не больш. (Пісалі мы ў «Ніве» пра гаспадара з Гайнаўшчыны, які сам сабе па-

(Працяг на стар. 4)




Снежнае поле як анёл,
чорная пушча як дэман —
шугнулі нашыя сані
на крылах анельскіх з лесу.
І хтосьці сардэчны над намі
месяц — ліхтарык павесіў
шыбуем
шыбуем
шыбуем
спадаем і зноў узлятаем.
Капыты ў звонкім адчаі,
анельскія крылы без краю:
ляцім пад гару крутую
і зноў з гары ападаем.
А зоркі ў зблытаных грывах
як сокам наліты чарэшні,
і сані, і коні — імклівасць,
і коні і сані — песня.
Мы зноў узлятаем на горку —
анельскія крылы ў зорках.
Угрэліся коні і людзі,
сцяплела, адстаў ад нас снежань,
пад лесам упаў ён на грудзі,
за ногі абняў Белавежу.

**Алесь Барскі**

## РЭФЛЕКСІІ З САКОЛЬШЧЫНЫ

Шмат месца прысвячаецца на рознага роду нарадах і канферэнцыях справам навучання беларускай мовы на Сакольшчыне. І не без прычын. Усё ж Сакольшчына — гэта калыска беларускай мовы ў нашых умовах ды і беларушчыны наогул. А калі так, дык здавалася б, што з навучаннем сапраўды матчынай мовы не павінна быць ніякіх цяжкасцей. Справа аднак выглядае зусім наадварот. Адмоўна ацэньваюць справы нацыянальнай асветы на Сакольшчыне не толькі ўспомненыя нарады і канферэнцыі, але таксама матэрыялы Кураторыі школьнай акругі. Аптымістамі з'яўляюцца толькі педагагічныя працаўнікі аддзела асветы ў Саколцы, якія даводзяць, што справа з навучаннем бел. мовы ў павеце не так ужо дрэнна выглядае таму, што калі і ёсць настаўнікі, якія ніколі ў сярэдняй школе не вучыліся беларускай мовы, але яны пабывалі на... курсах. Зразумела, што гэты факт не можа настройваць аптымістычна ўсіх, хто цікавіцца бел. школьніцтвам з па-за Сакольшчыны. Але ў Сакольскім інспектарацe адчулася многа рацыі. Аб іх хацелася б сказаць некалькі слоў.

Асноўнай справай беларускага школьніцтва Сакольшчыны з'яўляецца кадравая праблема. Ёсць вельмі мала маладых энергічных настаўнікаў, якія б мелі падрыхтоўку да навучання бел. мовы. Амаль зусім няма настаўнікаў, якія б кончылі беларускую філалогію Настаўніцкай студыі. Гэта праўда. Але з другога боку гледзячы ёсць прынамсі дзве прычыны, чаму іх няма: 1) не было каму з мясцовага актыву БГКТ дапамагчы ў рэкрутацыі на Настаўніцкую студыю (у Бельскім і Гайнаўскім дапамога была вельмі выдатная) і 2) не праяўлялася клопатаў у Саколцы, каб як мага больш выслаць абсальвентаў пачатковых школ у беларускі клас Бельскага педліцэя, якія б вярнуліся працаваць у свой павет. Цяжка таксама зараз згадзіцца з пэўнымі аргументамі некаторых нашых актывістаў, што аддзел асветы ў Саколцы **абсалютна не**

(Працяг на стар. 5)



**З НАГОДЫ КАЛЯД НАШЫМ ЧЫТАЧАМ І СІМПАТЫКАМ ШЛЕМ САРДЭЧНЫЯ СВЯТОЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ І НАЙЛЕПШЫЯ ПАЖАДАННІ.**

**«НІВА»**

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### КЕПСКА РАЗЫГРАНА

Кароль Канстанцін паспрабаваў скінуць хунту «чорных палкоўнікаў», якія ад красавіцкага дзяржаўнага перавароту па-дыктатарску ўпраўляюць Грэцыяй. Аднак партыя была вельмі кепска разыграна, на працягу некалькіх гадзін «чорныя» далі каралю «шах» і «мат». Кароль разам з сям'ёю вымушаны быў пакінуць Грэцыю і схавацца ў Італіі.

Мала знаны генерал Заітакіс абняў функцыю «віцэ-караля» і вызначыў на правадыра хунты палкоўніка Пападапуляса, прэм'ерам. Ход выпадкаў паказвае, што палкоўнікі былі добра падрыхтаваны, каб адбіць сілы перавароту. Праведзеная імі «чыстка» афіцэрскага корпусу запэўніла кантролю над арміяй.

Матывы выступлення караля супраць «палкоўнікаў» няясныя. Некаторыя лічаць, што нянавісць акружаючая рэжым палкоўнікаў казала каралю адцяцца ад дыктатуры і ратаваць аўтарытэт манархіі ў грамадстве. Пры гэтым кароль лічыў на дапамогу амерыканцаў. Аднак пералічыўся, яго ўплывы ў арміі аказаліся замалыя. А Амерыканскае разведачнае бюро лічыць лепшымі тых палкоўнікаў, якія даказалі, што ўмеюць моцна трымаць народ у ёжавых рукавіцах.

### У ЗША АБ ВАЙНЕ

Падкамісія амерыканскага кангрэсу па справах в'етнамскай вайны выказалася, што вайна працягваецца паволі, а ў сувязі з гэтым неабходна далейшая экскалацыя. Дамагаецца яна інтэнсіфікацыі бамбардзіровак, блакады партэ Гайфонг і дазволу амерыканскімі вайскамі перакрочыць граніцу Камбоджы «ў пагоні за ворагам».

Многія прыклады сведчаць аб тым, што амерыканскае камандванне сапраўды рыхтуе новыя экскалацыйныя крокі. Перакідка армейцаў ЗША т. зв. паветраным мастом ацэньваецца як уступ да магчымага сухапутнага нашэсця на тэрыторыю Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама.

### ЗА НАТУРАЛЬНЫ ПРЫРОСТ

Балгарыя намерана прыняць адпаведныя крокі на тое, каб супрацьдзейнічаць, выступаючаму ад некалькіх год, зніжэнню натуральнага прыросту. Гэтую праблему закрануў Т. Жыўкаў I сакратар кампартыі ў «Тэзісах аб працы з моладдзю». Гаворыць ён, што неабходна заахвочваць маладых людзей да ранейшага закладвання сем'яў. Высоўваецца таксама прапанову, каб прыняць сродкі, якія б перашкаджалі падзенню натуральнага прыросту. Прапануецца адначасова, каб дзяржава прыняла на сябе кошт утрымання трэцяга дзіцяці ў сям'і.

### ТЛУМАЧЭННІ

Дадзеныя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый да спраў Асветы Культуры і Навукі падаюць, што аўтарам, якога творы ў 1965 г. найчасцей перакладаліся на іншыя мовы, быў Ленін (201 пераклад). Наступныя месцы м. інш. займаюць: Сіменон — 100, Верн — 99, Л. Талстой — 98, Шэкспір — 96, Хрыстье — 92, а таксама Дастаеўскі, Сартр, Твейн, Бальзак, Хемінгуэй, Чэхаў, Андэрсен. У гэтым жа годзе найбольш перакладаў выдана ў СССР — 3863, у ЗША — 2203.

А.К.

## БССР

### МІЛЬЁНАВУЮ

12 снежня на палескіх нафтавых палях Беларусі здабыта ўжо мільёнавую тону «чорнага золата». Цяпер беларускія нафтавікі прынялі высокія абавязацельствы ў гонар паўстагоддзя Беларускай Дзяржавы, якое будзе надзвычай урачыста святкавацца на Беларусі ў наступным, 1969 годзе.

### ФРАНЦУЗСКАЙ

На Беларусі адбыліся Дні французскай культуры — Дні беларускай культуры адбыліся раней у Францыі.

У сувязі з Днямі французскай культуры прыбылі ў Беларусь шматлікія госці з Францыі. У Мінску адбылася прэс-канферэнцыя, у якой прыняў удзел саветнік пасольства Французскай Рэспублікі ў Саюзе ССР Альбер Табо.

У Мастацкім музеі БССР адкрылася выстаўка твораў выдатных французскіх мастакоў. Адбылося шмат меншых мерапрыемстваў.

### ВІДЭАТЭЛЕФОННАЯ

13 снежня адбылося ў Мінску афіцыйнае адкрыццё лініі міжгароднага тэлефона з блакітным экранам. Беларускі міністр сувязі П. Афанасьеў і віцэ-міністр сувязі Саюза ССР I. Клокаў правялі першую размову.

Мінск будзе ўжо мець відэатэлефонную сувязь з Масквою, Кіевам, Тбілісі, Ташкентам, Ленінградам, Львовам, Саратавам, Казанню і Свярдлоўскам. У бліжэйшы час — з Вільнюсам і Каўнасам (Літва).

### «МІНСК — 22»

Даведваемся з беларускіх газет, што вылічальныя машыны **«Мінск — 22»** устаноўленыя ў праектавым інстытуце горада Двур-Кралове на Лабе. Удзел Беларусі ва ўзаемным супрацоўніцтве паміж Саюзам ССР і Чэхаславакіяй з'яўляецца значным.

### КОНКУРС

У пачатку гэтага года быў аб'яўлены Усесаюзны конкурс на лепшую забудову і добраўпарадкаванне калгасных і саўгасных пасёлкаў. У ліку пераможцаў гэтага конкурсу знайшліся беларускія вёскі. А менавіта: вёска Сноў, Нясвіжскага раёна (за Навагрудкам), вёска Вялікія Эйсманты на Гродзеншчыне і пасёлак саўгаса «Камунар». Гомельскай вобласці.

### МАЛОЧКА

**М. Малочка,** старшыня Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта дэпутатаў працоўных, апублікаваў артыкул у цэнтральнай беларускай газеце «Звязда».

Малочка, між іншым, піша:

**«У выніку ажыццяўлення намечаных мерапрыемстваў па жыллёваму і культурна-бытавому будаўніцтву карэнным чынам змеціцца аблічча вёсак Гродзеншчыны. Замест дробных населеных пунктаў, у якіх налічваецца цяпер 15—20 двароў, і асобных хутароў вырастуць добраўпарадкаваныя пасёлкі гарадскога тыпу з водаправодам, каналізацыяй і іншымі камунальнымі выгодамі».**

Успомнены артыкул шэфа адміністрацыі Гродзенскай вобласці называецца — **«Агні новай вёскі».**

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ПРАМОВА

15 снежня адбылася ў Познані сустрэча сакратароў вясковых і грамадскіх партыйных арганізацый, падчас якой Уладзіслаў Гамулка выступіў з прамоваю на тэму асноўных праблем сельскай гаспадаркі. Ніжэй падаем некаторыя з асноўных, закранутых I сакратаром ЦК, праблем.

У першай абшырнай частцы свайго выступлення Уладзіслаў Гамулка падрабязна пераанлізаваў сучасную сітуацыю нашай сельскай гаспадаркі і далейшую перспектыву яе развіцця. Гаворачы аб дарогах паляпшэння нашай сельскай гаспадаркі, прамоўца звярнуў увагу на неабходнасць даць працу ўсім кваліфікаваным спецыялістам непасрэдна ў сельскагаспадарчай прадукцыі. Наступна Уладзіслаў Гамулка перайшоў да аналізу гаспадарак занядбаных, гаспадарак, якіх прадукцыйнасць безупынна, з году ў год паніжаецца.

«Асноўнай ідэяй нашых вывадаў, — заявіў прамоўца, — якія апрацавана ўжо ў форме праектаў пастаноў, з'яўляецца прынцып, што зямля, якая нерацыянальна выкарыстоўваецца адным гаспадаром, трэба пераказаць другому гаспадару, які гарантуе рацыянальнае яе выкарыстанне. Зямля ва ўмовах дэфіцыту сельскагаспадарчых прадуктаў мусіць быць выкарыстанай рацыянальна».

Таму менавіта прадбачваецца прымусовую выкупку зямлі ад гаспадароў, у якіх назіраецца нізкі ўзровень сельскагаспадарчай прадукцыі. Выкупка адбывацца будзе дарогаю ліцытацыі, з тым, што першынство пакупкі будзе мела дзяржава.

Наступна Уладзіслаў Гамулка выказаўся яшчэ раз на тэму неабходнасці магчыма хуткай ліквідацыі цераспалосіцы, а таксама на тэму праекта пенсій гаспадарам, якія пераказваюць зямлю дзяржаве, пры ўмовах, аб якіх мы ўжо пісалі ў гэтым месцы.

«Зразумела, — заявіў аднак далей прамоўца, — не кожны гаспадар, які ўмовы гэтыя палічыць карыснымі, будзе мог пераказаць зямлю дзяржаве, калі толькі захоча. Дзяржава толькі тады будзе прымаць зямлю, калі будзе магла забяспечыць належнае яе загаспадараванне. Да часу пераёму зямлі дзяржаваю, абавязак яе выкарыстання ляжыць на ўласніку, які адказвае перад грамадствам за належнае выкарыстанне сваёй гаспадаркі».

### КАТАСТРОФА

13 снежня раніцаю здарыўся ў мясцовасці Івіны на Дольным Слёнску трагічны выпадак. Праврваўся вал над сажалкай. Вялікая колькасць вады заліла чыгунку і акалічныя асады. Вада змыла з адхонаў 14 таварных вагонаў, якія адкінутымі былі на адлегласць каля 100 метраў. У трагічным выпадку шмат асоб загінула і шмат было раненых. Да акцыі ратавання накіравана атрады войска, пажарных камандаў і службы здароўя.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### СЕСІЯ

19 і 20 снежня радныя Ваяводскай рады нарадовай на 14 Сесіі разглядалі гаспадарчы план і бюджэт Беластоцкага ваяводства на 1968 год. Варта адзначыць, што ў распараджэнні гаспадароў ваяводства на 1968 год знаходзіцца 3 мільярды 139 мільёнаў 648 тысяч злотых. Гэты бюджэт на 70 мільёнаў злотых перавышае папярэдні. Апрача гэтага радныя ацанілі сваю дзейнасць за мінулы перыяд і абмеркавалі план развіцця аховы здароўя і план працы ВРН у 1968 годзе.

### АБ ПАШЫ

18 снежня 1967 года адбылося ў Беластоку чарговае пленарнае пасяджэнне Камітэта па сельскагаспадарчых справах, які дзейнічае пры Ваяводскім камітэце ПАРП. Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі праблемы, якія адносяцца да выкарыстання пашы на Беласточчыне.

### ДАТЭРМІНОВА

Беластоцкае прадпрыемства прамысловага будаўніцтва першы раз на працягу многіх год датэрмінова выканала свой гадавы план. Ужо ў кастрычніку прадпрыемства перавыканала на 26 кватэр свой план жыллёвага будаўніцтва. За мінулы год яно пабудавала: прадпрыемства прадукцыі машын і прылад для спажывецкай прамысловасці ў Старасельцах, ПОМ у Граеве, школу для медсёстраў з інтэрнатам у Беластоку і іншыя аб'екты. Грашовы план склаў у гэтым годзе 185 мільёнаў злотых і быў на 25 працэнтаў вышэйшы ад мінулагодняга.

Таксама датэрмінова свой гадавы план выканаў калектыў шклозавода ў Беластоку. Яго рабочыя дадаткова да канца гэтага года выпрадукуюць яшчэ 200 тысяч шклянак і 400—500 тысяч кілішкаў. Добры падарунак пад свята.

### ПРЫСЯГА

Маладыя салдаты Падляшскай часці войска ўнутранай абароны 17 снежня г. г. склалі ўрачыстую прысягу на вернасць радзіме.

Маладым салдатам сардэчныя віншаванні пераказаў камандзір Падляшскай часці палкоўнік Тадэуш Срачынскі. Ад імя салдат выступіў радавы З. Янушка. Пасля ваеннага парада адбылася за салдацкім абедам сустрэча бацькоў з сынамі і іх камандзірамі.

### ШАЛЕНСТВА

На тэрыторыі Беластоцкага павета шмат сабак, лісаў і іншых звяроў заражаных шаленствам. Улады загадалі прымусовы прафілактычны ветэрынарскі кантроль усіх сабак. Забаронена таксама наладжванне масавых паляванняў. У вёсцы Казінцы ашалелы ліс кінуўся на аднаго гаспадара. Асабліва трэба звярнуць увагу на дзяцей, якія далёка ходзяць у школу.

### БАСКЕТБОЛ

Гродзенскія баскетбалісты разыгралі на Беласточчыне два матчы. У Лапах змагаліся жаночыя каманды. Вынікам 42:40 перамагла лапская каманда. У Беластоку сустрэліся мужчынскія каманды. Тут вынікам 55:49 перамаглі госці з Гродна.




**NIEDZIELA, 24.XII.**

10.15 Program dnia. 10.20 „Bajka o Mrozie Czarodzieju" — film fab. radz. 11.40 PKF. 11.50 „Jubiler" — film („Uciekinier"). 12.20 Dziennik. 12.30 Koncert Chóru St. Stuligrosza. 13.05 „Przemiany". 13.35 „Na tropie blagi" — teleturniej. 14.10 „Popularne melodie gra Rafael Mandez" — film. 14.30 Teatr Młodego Widza: Z. Nienacki — „Krwawa ręka". 15.30 „Turniej Turniejów". 16.30 „Karnawał Ante Portas" — kabaret. 17.00 „Opowieści Wigilijne" („Piórkiem i węglem"). 17.30 Estrada Literacka: „Drzewa moje ojczyste" — montaż poezji polskiej. 18.15 „Skalny gazda" („Ludzie i zdarzenia"). 18.30 „Portrety" — Władysław Reymont. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Nauki małżeńskie pani Caudle" cz. I. 20.25 „Ostryga i pieniacz" — film („La Fontaine wiecznie żywy"). 20.50 „Bigos starowarszawski". 21.40 „Było to w Rzymie" — film fab. wł. — fr. 23.05 „Legenda Rudolfa Valentino" — film. USA.

**PONIEDZIAŁEK, 25.XII.**

10.00 Program dnia. 10.05 „Nieśmiały w akcji" — film fab. radz. 11.30 „Najmłodsi wykonawcy muzyki współczesnej". 12.05 „Start i meta" — reportaż sportowy. 13.05 „Kukła w niebezpieczeństwie" — film fab. ang. 14.00 „Zespół Folklorystyczny". 14.45 Dla dzieci: K. Orski „Zimowa przygoda". Widowisko Państwowego Teatru Lalek „Pleciuga" w Szczecinie. 15.25 „Pies mój przyjaciel" — film fr. 15.45 „Sopot 67" — film. 16.50 „Tele-Echo". 17.35 „Kino Krótkich Filmów". 18.05 „Spotkanie z cieniem" — Hanka Ordonówna. Prowadzi J. Waldorff. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Studio 63: G. Zapolska — „Ich czworo". 21.20 „Fantomy" — film tv pol. 21.55 „Brzeg rzeki" — film fab. USA.

**WTOREK, 26.XII.**

11.55 Program dnia. 12.00 „Polowanie na wilki" — film („Bonanza"). 14.15 „W krainie operetki". 15.00 TV Teatr Lalek: „Ali Baba i czterdziestu rozbójników". 16.00 Program filmowy. 16.40 „Teatr" — rep. filmowy. 16.55 „Jak Wam się podoba" — świąteczny teleturniej rozrywkowy. 17.55 „Po szóstej". 18.35 Teatr Komedii Współczesnej: „Santa Claus". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Nauki małżeńskie pani Caudle" odc. II. 20.25 „Żona dla Australijczyka" — film fab. pol.

**SRODA, 27.XII.**

9.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Poranne", 2) „Historia Żółtej Ciżemki" — film fab. pol. 10.30 Przerwa. 11.00 „Święty". 11.50 Przerwa. 14.50 Dla młodych widzów: „Wesołe starty" — zawody zespołów dziecięcych w grach i zabawach sportowych (Moskwa). 15.30 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne", 2) Teatrzyk Kieszonkowy: W. Perzyński: „Pan Rozpędek". 17.30 „Niedźwiadek Tuptuś" — film radz. 17.40 „Telekram". 17.50 „Za kierownicą". 18.20 „Na stepach Tuwy" — film Tele-Aru. 18.30 „El Greco" — film węg. 18.50 „Jazz Jamboree 1967". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Święty". 20.55 „Światowid". 21.25 „Klub szachistów" — film tv pol. 21.55 Dziennik.

**CZWARTEK, 28.XII.**

9.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Poranne", 2) „Leśna opowieść — film fab. radz. 10.30 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": 1) „Kino Ptyś", 2) „Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne", 3) „Turniej Żółtej Żyrafy". 18.05 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.30 „Kamień i historia" — film Tele-Aru. 18.45 „Przegląd Muzyczny" — kronika wydarzeń muzycznych roku 1967. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Pod znakiem jakości". 20.35 Teatr Sensacji: Z. Safian — „Kartka z archiwum" — widowisko sensacyjne. 21.40 „Refleksje". 22.15. Dziennik.

**PIĄTEK, 29.XII.**

9.00 „Teleferie": 1) „Towarzystwo Zagadkowe Poranne", 2) „Przemytnik z Piemontu" — film fab. fr. 10.45 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": 1) „Zręczne ręce", 2) „Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne". 17.40 „Dialogi historyczne" — magazyn. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 „Azymut". 18.50 „Recitalu nie było" — program rozrywkowy. 19.15 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Świat 67" — przegląd wydarzeń w polityce międzynarodowej w roku 1967. 20.45 „Wieczór z Conradem". 22.15 „10 minut recenzji". 22.25 Program publ. 22.55 Dziennik.

**SOBOTA, 30.XII.**

9.00 „Teleferie": „Uwaga, czarny kot" — film fab. radz. 10.20 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 Program Tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 „Teleferie": „Harcerski Trójmecz". 18.00 „Bing Crosby i Bob Hope" — film kanad. 18.50 „W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Nauki małżeńskie pani Caudle" odc. III. 20.35 „Wielki Wódz" — film fab. fr. 22.10 Dziennik. 22.25 „Mijają lata, mijają piosenki" — program estradowy. 23.25 „Szkice kopenhaskie — filmowy program rozrywkowy duński.




**Piątek, 22 grudnia**

9.00 „Wasa Żeleznowa". Film. 14.00 Program dnia 14.05 Dziennik. 14.10 Język ang. dla przedszkolaków. 14.30 Dla uczniów. 15.00 „Dziś i jutro techniki rolniczej". 15.30 „Potok stalowy". 16.00 Dziennik. 16.15 Program poświęcony energetykom. 16.45 „Ogoniok". 18.00 „Sztafeta nowin". 19.00 „Tragedia optymistyczna". Film.

**Sobota, 23 grudnia.**

6.00 Dla studentów. 11.40 Język ang. dla przedszkolaków". 12.00 Program TV barwnej. 13.30 „Krasin". Spektakl TV. 14.30 Dziennik. 15.00 Klub filmowy. 17.00 Koncert poświęcony Ukrainie. 20.00 „Cisza pograniczna". Film TV.

**Niedziela, 24 grudnia**

9.00 Dla przedszkolaków. 9.30 Dla uczniów. 10.10 Muzeum sztuki im. Puszkina. 10.40 Transmisja z zawodów pływackich na jeziorze Komsomolskim w Mińsku. 11.00 „Szkatułka muzyczna". 11.20 Dla żołnierzy. 12.00 Program TV barwnej. 13.30 Dziennik. 13.40 Kiosk Muzyczny. 14.20 Klub Wiejski. 15.35 Kronika Filmowa. 15.45 Spektakl TV. 18.00 Dziennik. 18.30 „Dwa lata nad przepaścią". Film.




Я не бачу Белавежы! Пакажыце мне Белавежу!? Так закрычаў бы, каб не людзі, увайшоўшы на выстаўку палоцен мастакоў-удзельнікаў сёлетняга каторагась па чарзе Агульнапольскага белавежскага пленера. Выстаўка зроблена прыгожа і хіба добра, хаця і ў кавярні-чытальні Клуба МПіК у Беластоку. Зрэшты, для мастацкай карціны ўсюды добрае месца. Калісьці, стары беластоцкі мастак Вельс, сказаў за шклянкаю чаю ў ГП БГКТ, што выстаўкі карцін трэба ладзіць... на платах. Усе зарагаталі, а стары Вельс добранька ведаў, што выстаўкі на платах магчымыя толькі ў Парыжы, мо яшчэ на рымскай вія Маргута.

Але вернемся да выстаўкі пад неонавымі полапамі МПіК-у. Удзельнічае ў ёй з паўтара дзесятка аўтараў з усяе Польшчы, а найбольш з Беластока. Гэта не папрок, што найбольш — з Беластока. Так яно павінна быць! Бо, прабачце мне, але хто ж ляпей зразумее дрымучую Белавежу, калі не беластоцкія мастакі?

Пленер гэты разумею, як мастацкі падарунак для каханай Белавежы, а на другім месцы стаўлю факт арганізоўвання такога чагосьці, што дае мастакам магчымасць стваральнай працы. Тады давай пытаць кожнага аўтара, які яго падарунак? Не хачу, не буду і не магу гаварыць аб якасці падарункаў — горшыя яны ці лепшыя? Адно мне яснае: жанчыне ніхто не дорыць ботаў-афіцэрак з высокімі тылкамі, а мужчыне ніхто не дорыць балёвай сукні, хаця і боты, і сукня могуць быць высокай якасці і цаны.

Давай пытаць пленеравых мастакоў, што яны падарылі Белавежы? Адзін за другім амаль усе адказалі, што падарылі нашай каханай Белавежы найлепшае (што змаглі і мелі!). І далей даказвалі мне і даказвалі, што ў наш час падарыць боты-афіцэркі жанчыне гэта не так ужо смешна, як здаецца. А і мужчынам могуць прыдацца балёвыя сукні, скажам, на маскарад, — ды не толькі. Напрыклад, шатландцы ходзяць у спаднічках, дык чаму ж ім не пахадзіць час ад часу і ў сукнях?!

Хадзіў я па выстаўцы, як па краме залатара, дзе мноства прыгожых рэчаў, а кожная з тых рэчаў кожнаму падыходзіць. Няма такіх, каму золата не падабаецца. Ці маю права ганіць за тое, што Белавежы дораць золата, дораць найвышэйшую якасць чалавека: мастацтва. Ды хачу я, каб гэтыя падарункі не былі серыйнай пробы, хаця і найвышэйшай. Хачу, каб Белавежа атрымоўвала такія падарункі, якіх ніхто не мае і мець не будзе. Хачу, каб гэтыя падарункі былі непадменнымі — каб знайшоўшыся яны ў небелавежскіх руках сведчылі аб праўдзівай іх валадарцы-натхніцельніцы.

У краме залатара, здаецца, знайшоў я рэчы, прыналежныя Белавежы: гэта пленеровая творчасць **Ежы і Дароты Лабаноўскіх** з Беластока, гэта творчасць **Аляксандра Хомчыка,** таксама з Беластока і **Галіны Цяслінскай-Бжэскай** аж з Кракава. Каго яшчэ? Мо Шымана Шумінскага з Торуні, мо Ежы Гнатоўскага з Торуні, мо Юзэфа Латоўскага з Беластока??? Так, Шумінскі напэўна з'яўляецца ўласнасцю Белавежы. Іншыя — не ведаю, баюся, што паходзяць яны з агульнага рынку, універсальнага рынку попыту і падажы.



**ЕЖЫ ЛАБАНОЎСКІ. «...у Лабаноўскіх пачуўся я сярод пушчы»...**

Лабаноўскія. У Лабаноўскіх я пачуўся сярод пушчы і то Белавежскай. Вярнуўся да мяне настрой з дзяцінства — самы моцны настрой! — настрой дзяцінства, задуменнасць пад таемнымі голлямі начнога дрэва і малітва да спешкі-спарышкі пры летнім захадзе сонца. пад канец жніва. — Зазванілі званы паднябесныя і абамлела далячынь палёў, калі стаяў я пад цэрквамі Аляксандра Хомчыка (сапраўды, стаяў я пад цэрквамі, бо карціны гэтага мастака размешчаны вышэй майго нізкага росту). Як жа ўдзячным застаюся Хомчыку за гэту ўрачыстую хвілю. У Бжэскай і Шумінскага пахне як-ні-як але чымсьці нашым, белавежскім.

Гэта рэчы, якія не павінны загінуць у навале прыгожага толькі але ніякага.

**Сакрат Яновіч**

---

# ХТО НАСТУПНЫ?



Вельмі мілыя ўспаміны з сямідзённай экскурсіі на Падгале мае кааператыўны калектыў з беларускага ліцэя ў Бельску, перадавым вучням якога і была наладжана гэта паездка.

У гэтага школьнага кааператыва, які вядзе настаўнік Рыгор Анацік, гадавое сальда складае 30 тысяч злотых. Таксама важнай умовай, якая вылучыла гэты калектыў на цікавую экскурсію, былі розныя грамадскія чыны, якімі славіцца ліцэй.

(Ю. Р.)

## «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА» АБ ТВОРЧАСЦІ ВІКТАРА ШВЕДА

Мінскі часопіс «Літаратура і мастацтва» змясціў рэцэнзію Міколы Прашковіча аб зборніку вершаў Віктара Шведа — «Жыццёвыя сцежкі». Разам з тым Прашковіч даў кароценькую інфармацыю аб нашым літаратурным руху.

Мікола Прашковіч станоўча ацаніў зборнік «Жыццёвыя сцежкі»; больш падрабязна затрымаўся над некаторымі вершамі, характэрнымі творчай асабовасці В. Шведа. Слушна прытым звярнуў увагу таксама і на слабыя бакі Віктаравай творчасці, залішне перасычаных дыдактызмам і маралізатарствам. Датычыць гэта і некаторых вершаў дзецям, перш за ўсё, у раздзеле гумарыстычных вершаў.

(С. Я.)

## ЗДАРОЎЕ

«Здароўе даражэй за ўсё» — аб пагаворцы гэтай памятае Павятовае праўленне Саюза сялянскай моладзі ў Бельску. З яго ініцыятывы заснавана тут т. зв. Павятовую раду здароўя, у склад якой увайшлі лекары-спецыялісты ад аховы здароўя, а таксама грамадскія і маладзёжныя дзеячы. Рада забралася ўсур'ёз да паляпшэння стану здароўя жыхараў Бельскага павета. Перад усім паклікана да жыцця т. зв. «школы здароўя». Арганізацыйныя абавязкі ўзяў на сябе ЗМС, выкладчыкамі тым часам з'яўляюцца працуючыя ў павеце лекары, якія выконваюць гэтую працу грамадскім чынам.

Штогод у Бельскім павеце арганізуецца 11 такіх школ. Слухачы засвойваюць тут найбольш патрэбныя ў жыцці веды: аб гігіене сямейнага жыцця і мацярынстве. аб выхаванні дзяцей, аб шкоднасці ўваходзячых штораз больш на вёску хімічных сродкаў, аб алкагалізме і гд. Апрача гэтага роду школ з ініцыятывы рады здароўя лекарскія ўстановы Бельска штогод бяруць пад апеку некалькі вёсак, дзе праводзяць падрабязныя доследы над здароўем сялян. (п)

СУЧАСНАЯ МІФАЛОГІЯ

# ВЁХА — БАГІНЯ ГАНЬБЫ

За агнямі Беластока цямнее вёска. У вёсцы не відаць тых тысячаў агнёў Беластока; відаць толькі зарыва, якое сягае зорак на небе — блішчастых зорак у марозную ноч. Не стаю я ў гэту ноч на высокай мясціне за вёскаю, сяджу за цёплым акном і гляджу невядома куды. А ў хаце гудзіць вяселле і спяваюць «сто лят».

Чамусьці сумна мне?

Адбываецца сялянскае вяселле: за сталамі з сотня гасцей, на сталах вульгарныя літры, збоку «рэжуць» музыканты, а ўсе спяваюць песню за песняю ды п'юць «да дна» і «да канца», і раз-пораз. І гавораць адразу ўсе: усе да ўсіх, сусед да суседкі, суседка да суседа — і ніхто нікога толкам не чуе. Словам, вяселле. Словам, вяселле, як кожнае вяселле.

А мне сумна.

Сумна няўжо ад таго, што вясельнікі робяць усё, каб вяселле не было сялянскім — каб было «мястовым», гарадскім. «Равела бура, дождж шумеў»... заціхла і прапала зусім у шматгалоссі вясельных рэнаў рольскіх, вайцехаў млынарскіх, ірэнаў сантар; красамоўны сват папярхнуўся «актамі вэсэльнымі», «прошапаньствамі» і яшчэ чымсьці — не памятаю, чым яшчэ? Аднак вяселле гэтае сялянскае яно, бо іншых вяселляў няма на свеце: гарадскіх вяселляў няма. Словам, вяселле.

Дружкі-сваячкі ў дарагіх сукнях перакананы ў тым, што яны не сялянкі, бо працуюць у Беластоку, папрыязджалі на вяселле не з суседніх вёсак.

Дружбанты-сваякі ў чорных касцюмах кепска чуюцца ў хамутах манераў, набытых у горадзе, але цвёрда трымаюцца тых манераў аж да пятай ці нават сёмай чаркі. Яны таксама не сяляне. Адны старыя людзі чуюцца сялянамі і па іх тварах скачуць грымасы зінаватасці або насцярожанасці. Яны разумеюць, што ўсенька непрыгожае можа вынікнуць толькі ад іх альбо з-за іх. Хтосьці з маладых азваўся голасна да старога чалавека па-свойму, па-беларуску, і стары чалавек пачырванеў ад такой ганьбы, і хутка адказаў ён (маладому) папольску.

На вяселлі ў вёсцы, што за агнямі Беластока, гаварылі пра багіню кахання, ВЕНЕРУ, а побач яе ўбачыў я багіню ганьбы, ВЁСКУ, дакладней кажучы — ВЁХУ. А можа ВЁХА гэта няшлюбнае дзіцё ВЕНЕРЫ? Так было б ляпей, бо пашто нам багіня ганьбы?! Так было б ляпей, але гэта немагчымае. Сам бачу.

Неспадзявана зразумеў я свой дзівацкі смутак: усе чакаюць смерці ВЁХІ! І, як аб нябожчыку. якога не памінаюць ліхам, вяселле заспявала над раніцай «равела бура, дождж шумеў», «расцвіталі яблыні і грушы», «распрагайце хлопцы, коні»... Яшчэ да світання вясельнікі пачалі раз'язджацца: хто да аўтобуснага прыпынку, хто да чыгуначнага прыпынку, каб паспець на ранішню гадзіну працы.

У такую хвілю, калі праводзіш вясельнікаў за вёску ў дарогу і паглядзіш здалёку, з высокай мясціны, на начны горад, будзе здавацца ён табе вялікім могільнікам у Дзень Усіх Святых.

**Кастусь Янкоўскі**

## фальклор

### ПРЫЛЯТАЕ ЧОРНЫ ВОРОН

(сіроцкая песня)

Прылятае чорны ворон
Нашу воду піці.
Ой, як цяжка сіраціне
Без баценькі жыці.

Бацька чужы, бацька чужы
Шчэ й маці чужая.
Ніхто мэне ні шкадуе,
Хоч я маладая.

Як пасядут абедаці,
З дзеткамі гаворат.
А да мэне сіраціны
Слова не прамоўлят.

Як посядут вечэраці,
Да дзетак сміюцца.
А ў мэне сіроціны
Дробны слёзы ліюцца.

Як пайду я ў чыстэ поле
Работу рабіці,
А як стану я плакаці —
Усім анёлам чуці...

Запісаў ад жыхаркі Плянты (Гайнаўскі павет) Варкі Шадуі (30 год),

**Янка Цялушэцкі**

## ЗМС-АЎСКАЯ АЛІМПІЯДА ВЕДАЎ ПРА ПОЛЬШЧУ І СУЧАСНЫ СВЕТ

У школьным 1967/68 годзе алімпіяда арганізуецца пад лозунгам «Геройства польскага салдата — узорам патрыятызму нам».

IX алімпіяда працягваецца ад 30 лістапада 1967 г. да 1 сакавіка 1968 г. і на розных этапах яе моладзь дакладна пазнаёміцца з гісторыяй войска і яго днём буднім. У канцы будуць узнагароды.

Ваяводскае праўленне ЗМС у Беластоку, як арганізатар, ужо занялося алімпіядай вельмі добра, і таму вынікі могуць быць карысныя. (вл)

# КУДЫ ПЛЫВЕ СТРУМЕНЬ ЧАСУ

Адказ можа быць толькі адзін: струмень часу плыве безупынна наперад. На першы погляд, здавалася б, няма справы больш простай і наяўнай, як тое, што час безупынна і незалежна ад нашай волі плыве ў адным напрамку. Справа аказваецца аднак у істоце надзвычай складанай. Ад стагоддзяў займаліся ёю філосафы, потым фізікі, астраномы, касмалогі, а апошнім часам заняліся ёю нават этнографы.

Бо і сапраўды, чаму час няўхільна плыве ў адным напрамку? Вядома, што ўся прырода пабудавана сіметрычна, што ўсялякі рух матэрыі можа адбывацца ў адным і ў другім напрамку — «туды і назад», што ўсе хімічныя рэакцыі маюць свае адваротнасці. Толькі час не вяртаецца назад, і жыццё чалавечае ўяўляецца яму накшталт паравоза на ўсю пару імкнуўшага ў невядомую імглістую будучыню.

Ці сапраўды аднак гэта так? Ці пачуццё ўцёку часу адчувалася заўсёды і ўсюды так, як у нашай цывілізацыі — у цывілізацыі школьнай адукацыі, пісьменнасці і змеханізаванай фабрычнай працы?

Рэч надзвычай цікавая для этнографаў і этнолагаў. Праўда, нямногія з іх падняліся даследвання гэтай праблемы, аднак некаторыя гэта зрабілі. Так, напрыклад, вялікі англійскі этнолаг польскага паходжання, Браніслаў Маліноўскі ў сваёй кнізе «Coral Gardens and their Magic» (Каралёвыя агароды і іх магія) сцвердзіў, што жыхары Трабрыадскіх астравоў мераюць час чарговасцю сезонаў у агародных працах. Калі б пазбавіць трабрыдчыка агародніх работ, страціў бы ён мабыць усялякую арыентацыю ў часе, усялякі рахунак часу, і, што за тым ідзе, рэальнае адчуванне часу.

Яшчэ больш цікавыя дадзеныя прыводзіць амерыканскі даследчык Гоф у сваёй кніжцы: «Language, thought and reality» (Мова, думка і рэчаіснасць). Сцвярджае ён, што ў індзейскім племені голі ў граматыцы мовы няма падзелу на час мінулы, будучы і цяперашні, а ў сувязі з тым і існуючыя ў свеце здарэнні не падзяляюцца на мінуўшыя, цяперашнія і будучыя, і час паводле нашых уяўленняў зусім не існуе.

Для дакладнасці варта прывесці ў гэтым месцы польскага этнографа Валігурскага, які даследваў зусім іншае ад нашага адчуванне часу ў нілоцкім племені луо, а таксама англійскага сацыёлага Бекера, які непадобнае да нашага адчування часу канстатуе ў старажытным Кітаі.

Навошта аднак шукаць аж так далёка. Думаю, што ў народнай культуры перад тым, як увайшла на вёску масава пісьменнасць і школьная адукацыя, можна знайсці мноства прыкладаў іншага ад цяперашняга разумення і адчування ўцёку часу. І тут, як і ў іншых выпадках, многа чаго можна было б знайсці прасачыўшы дакладна матэрыялы па этнаграфіі беларусаў.

Час у беларусаў мерыўся палявымі работамі і абрадава-рэлігійнымі цыкламі. Здарэнні акрэслівалася прыблізна так: «у жніво», «у капане», «у піліпаўку», «перад калядамі» г. д. Або, калі трэба было акрэсліць дакладней, гаварылася: «у дзесяць дзён пасля каляд», «дзве нядзелі перад піліпаўкаю» і г. д. Рэдка хто ведаў каляндарныя месяцы, не ўсе арыентаваліся нават у тым, колькі ім гадоў. Многія з нас хіба памятаюць, што нашыя бабулі часта даты нараджэння сваіх дзяцей ці ўнукаў акрэслівалі паводле такіх арыенціраў як напрыклад: «у нядзелю перад Спасам».

Найважнейшае аднак у народным успрыманні часу было нешта іншае, гэта своеасаблівы кругаварот часу гадавой народнай абрадавасці, замкнутая ў ёй сімволіка перажываемай «вечнасці». Жніво з усімі яго абрадамі, песнямі і г. д. было адно да другога абсалютна падобным, вядома было прытым, што так было ад пачатку свету і так павінна быць да канца свету. Тое самае з іншымі гадавымі цыкламі: калядамі, маслянкаю, велікоднымі святкаваннямі і г. д. Люд нічога не ведаў аб існаванні гісторыі чалавецтва з яе дынамізмам і зманлівасцю, падзеленай на перыяды і эпохі. Струмень гістарычнага · часу для люду не існаваў. Свет меў свой пачатак, і ад таго часу ўсё ёсць, так як ёсць. Спяваюць птушкі і маладыя дзяўчаты, людзі спраўляюць вяселлі, хрысціны, святкуюць каляды і іншыя святы, і будзе так да канца свету, а калі нешта зменіцца, будзе гэта пачатак гэтага канца. Такім чынам час як быццам бы траціў сваю аднакірунковасць, з якою маем дачыненне цяпер калі з года ў год назіраем змены ў напрамку дасканалення чалавечай тэхнікі. Час цяпер сапраўды мае адзін вельмі выразны напрамак.

Гэта аднак не ўсё. Народная абрадавасць выразна, быццам бы свядома, заключала ў сабе зверхчасавае нейкае значэнне. Нараджэнне Хрыста, напрыклад, падчас калядных святкаванняў не было толькі ўрачыстымі ўспамінамі факту меўшага месца дзевятнаццаць стагоддзяў таму назад. Аб нараджэнні гэтым гаварылася і перажывалася яго як нешта, што рабілася ў даны момант, у момант святкаванняў. Такім чынам штогод перажывалася нанава адзін і той самы факт: нараджэнне Бога звязанае з істотнай падзеяй у прыродзе: канцом наступлення зімы і пачаткам пабольшвання дня. Пачынаўся абрадавы год і кругаварот часу пачынаўся нанава, зноў як быццам бы ад нуля.

Думаю, што чытачу, які захацеў бы прачытаць напісанае ўважліва, станецца ясным, як вялікае значэнне для чалавека і яго светапогляду мела збурэнне гэтай народнай канструкцыі часу. Мабыць у гэтым факце можам адшукаць прычыны розных неспакояў і духовых хвароб цывілізацыі.

**Уладзімір Паўлючук**

# Беласточчына памятнікамі старадаўнасці багата



**Скульптура на дзядзінцы палаца Браніцкіх у Беластоку. Цяпер у гэтым палацы змяшчаецца Медыцынская акадэмія.**

**Фота: Г. Рагазінскі.**

Пару слоў аб памятніках старадаўнасці на Беласточчыне. Гэта: царквы, касцёлы, палацы, сінагогі, хаты рознага роду, цэлыя вуліцы і гарады (як Тыкоцін), замкі, манастыры, мячэці, нават забыткі прыроды, як, напрыклад, дуб Ягайлы ў Белавежскай пушчы. Зразумела, не кожная царква, не кожны касцёл можа быць памятнікам. Памятнікамі з'яўляюцца будоўлі наогул старыя.

Беласточчына памятнікамі старадаўнасці багата. Мо менш чым Кракаў, але затое маем мы гэтыя забыткі вельмі разнародныя. Яны яшчэ невядомы шырэй, памалу адбудоўваюцца, але ваяводскі кансерватар стараецца, каб і на Беласточчыне паўсталі цэнтры, да якіх прыязджалі б, прыходзілі б турысты. І не толькі такое значэнне маюць памятнікі будаўніцтва. Усім вядома, што ў найбольшым памятніку старадаўнасці Беласточчыны, палацы Браніцкіх, змяшчаецца зараз Медыцынская акадэмія. Новы школьны год дзеці з вёскі Паўлавічы на Сакольшчыне пачалі ў палацы беларускай сям'і Валовічаў, які адбудавана на школу і кватэру для настаўнікаў. Новае жыццё ў даўнейшых пакоях магнатаў такое, што бегаюць тут праўнукі тых, хто вымушан быў гнуць спіну на панскім. Але было ўжо гэта даўно і не вернецца.

У іншым палацы — слаўнай велізарнай і ўдзельнай амаль сям'і Патоцкіх у Рудцы на Бельшчыне змяшчаецца Засаднічая школа рахункавосці рольнай. А ў палацы ў Цеханоўцу ў Сямяціцкім павеце (Палац беларускага магната Кішкі) будзе Сельскагаспадарчы музей Таварыства любіцеляў Цеханоўскай зямлі.

Рэч цікавая, што палацы служаць цяпер непасрэдна тым, якіх прыгняталі — сялянам.

Слаба яшчэ распрацаваны комплекс спраў звязаных з памятнікамі царкоўнага будаўніцтва на Беласточчыне. Але планы ваяводскага кансерватара сягаюць далёка і шырока. Увесь разнародны склад беластоцкіх памятнікаў Старадаўнасці ва ўсёй сваёй красе стане ў будучыні адкрытым для людзей. (вл)

**(Працяг са стар. 1)**

## Крыху вялікай палітыкі аб малой вёсцы

будаваў трактара, пісалі і пра слыннага ў такіх майстэрскіх справах Паўла Валошына з лясной Сакольшчыны). Але гэта не прыклады.

Дзякуючы сельскагаспадарчаму гуртку, дзякуючы крэдытам, якія атрымоўвае, ёсць магчымасці закупіць шмат машын — хаця б малатарню. Карыстаючыся магчымасцямі, данымі сельскагаспадарчым гурткам, можна многа добрага зрабіць не толькі для ўласнай гаспадаркі, але наогул для гаспадаркі вёскі — і суседніх вёсак. Можна, скажам, добра заняцца барацьбою са шкоднікамі палёў пры дапамозе розных апрысквальнікаў, можна добра загаспадарыць пашу, узараць яе, пасеяць на ёй карысныя травы, нават правясці невялікую меліярацыю дзе трэба. Што яшчэ можна? Можна закупіць адразу для ўсяе вёскі патрэбную колькасць угнаенняў, можна закласці гадоўчую ферму. Можна, можна і яшчэ раз можна вельмі многае, як на пачатак добрай гаспадаркі.

Ад спраў сельскагаспадарчага гуртка, ад зімовых размоваў аб яго дзейнасці, трэба думаць аб перспектыве сваёй вёскі на год, два гады і больш.

**(СЯ)**

## Грымоты ў снежні

Пятага снежня а шостай гадзіне ўвечары над Беластокам было чуваць кароткія грымоты з бліскавіцамі. Пасля грымотаў праз дзесяць-пятнаццаць хвілін падаў вялікі град і дуў моцны вецер. Град мамантальна растаяў на мокрай зямлі. Познім вечарам паказвала на прымаразкі, але адліжная пагода ўтрымалася яшчэ на пару дзён.

Грымоты ў месяцы снежні гэта рэдкая з'ява ў нашым клімаце. (ся)

**УЛАДЗІМІР ШАЎЧЭНКА**




**Нядаўна былы начальнік штаба партызанскага атрада імя Б. Хмяльніцкага брыгады «У імя Радзімы», Уладзімір Шаўчэнка прыслаў нам свае ўспаміны. У іх расказвае ён аб партызанскай барацьбе на Беласточчыне, а асабліва ў Белавежскай пушчы, дзе дзейнічаў атрад імя Б. Хмяльніцкага. Лічым, што нашы чытачы з цікавасцю прачытаюць гэтыя новыя старонкі з гісторыі нашай зямлі.**

**Рэдакцыя**

Па загаду ЦК Камуністычнай партыі Беларусі ў жніўні 1943 года было створана новае Беластоцкае злучэнне на чале з генералам Капустай Філіпам Філіпавічам, а таксама створаны Беластоцкі падпольны абласны камітэт КПБ на чале з Самуціным Васіліем Емельянавічам.

Мэта стварэння новага партызанскага злучэння заключалася ў арганізацыі ў глыбокім у той час тыле ворага масавага партызанскага руху з максімальным прыцягненнем да барацьбы з акупантамі мясцовага польскага і беларускага насельніцтва.

У верасні 1943 г. тав. Капуста — будучы да гэтага камандзірам нашай партызанскай брыгады ў далёкім ад вас Капыльскім раёне Мінскай вобласці, з нашым невялікім атрадам «За Радзіму» і двума іншымі атрадамі выйшаў у вядомы рэйд з Мінскай у Беластоцкую вобласць.

Дзякуючы аператыўнасці Цэнтральнага і Беларускага штабаў партызанскага руху, ужо пасля двух месяцаў, калі мы знаходзіліся ў Ружанскай пушчы, у злучэнні налічвалася каля дзвюх тысяч партызан. Злучэнню прыдаваліся роты, атрады і брыгады па дарозе нашага руху. Прыходзіла многа адзіночак, жадаючых змагацца з ненавісным фашызмам.

За гэты час наш атрад вырас у два разы і быў рэарганізаваны ў брыгаду «У імя Радзімы», камандзірам брыгады стаў Міхаіл Грыгор'евіч Янкоўскі (партызанская мянушка — Мартынаў), а камісарам Мікалай Іванавіч Чуркін, г. зн. былы камандзір і камісар атрада «За Радзіму».

З Ружанскай пушчы злучэнне накіравалася на поўнач, а наша новая брыгада на захад у Белавежскую пушчу, каб затым з яе дзейнічаць у Гайнаўскім, Бельскім, Бранскім і Лапскім раёнах.

Першы наш уваход у Белавежскую пушчу адбыўся прыкладна 30 кастрычніка 1943 г. У той час у пушчы даволі актыўна гаспадарылі нямецкія акупанты: спраўна дзейнічала добра разгалінаваная вузкакалейная чыгунка, па прасеках праходзілі лініі тэлефоннай сувязі, фашысты свабодна раз'язджалі па шматлікіх урочышчах. Сагнанае з навакольных вёсак насельніцтва, а нават і самі немцы ў масавым парадку вывозілі драўніну на фронт і ў Германію. Спраўна працавалі смалакурныя і шкіпінарныя заводзікі.

Трэба прызнацца, што немцы лепш ад нас вялі разведку нашага руху і мы ўсёй брыгадай напалі на моцны заслон. І нягледзячы на тое, што ў зацягнуўшайся на цэлы дзень барацьбе акупанты панеслі страты ў некалькі разоў перавышаючыя нашы, брыгадзе прышлося адысці праз Новы Двор і Ружанскую пушчу ў Гута-Міхалінскі лес. Там да сакавіка 1944 года дзейнічаючы на камунікацыях ворага ў Ружанскім, Пружанскім і Бярозаўскім раёнах, брыгада вяла дакладную разведку Белавежскай пушчы.

Да гэтага часу ў заходняй частцы Белавежскай пушчы і ў Гайнаўскім раёне ўжо разгарнулі актыўную дзейнасць супраць акупантаў добрыя партызанскія групы, з ліку былых ваеннаслужачых Савецкай Арміі, а таксама падпольшчыкі антыфашысцкіх камітэтаў Гайнаўскага раёна, на чале са старымі членамі КПЗБ. У апошні час амаль усе члены антыфашысцкіх камітэтаў вымушаны былі ўцякаць ад гестапаўскіх шпегаў у пушчу і там была створана партызанская група. У кіруючае ядро групы ўваходзілі падпольшчыкі Юрчук Аляксандр, Беглюк Фёдар, Койла Уладзімір і Сцяпан, Саевіч Грыгорый і іншыя. Камандаваў вопытны антыфашыст і падпольшчык Гайнаўскага раёна Аляксандр Юрчук.

Звязаўшыся з гэтай групай наша брыгада ў красавіку 1944 года поўнасцю перабазавалася ў Белавежскую пушчу. У Гайнаўскую групу былі выдзелены нашы партызаны. Група стала шматнацыянальнай і ёй было прысвоена імя аднолькава дарагога чалавека польскаму і савецкаму народу, імя Фе-




### КРАЮ МОЙ РОДНЫ!

Краю мой родны! Як выкляты богам —
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч[1] раскідаліcь родныя вёскі.
Жалем сціскаюцца грудзі! —
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі...

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынеслі моцныя спіны;
Шмат іх прымусілі выцерпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду —
Сціснецца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі...

Ў гутарках — казках аб шчасці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе.
Сціснула гора дыханне ў народзе,
Гора ўсюды пануе.

Хваляй шырокай разлілась, як мора,
Родны наш край затапіла...
Брацця! Ці зможам грамадскае гора?
Брацця! Ці хваце[2] нам сілы?

**Максім Багдановіч**

1. Пры дапамозе якіх слоў і сказаў аўтар стварае вобраз беднай беларускай вёскі?
2. З якімі разважаннямі звяртаецца аўтар да беларускага народа?

### БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Максім Багдановіч (1891—1917). — Вялікі беларускі паэт, публіцыст і літаратуразнаўца. Напісаў шмат вершаў, частка якіх склала зборнік «Вянок». Акрамя таго перакладаў на беларускую мову творы з лацінскай, рускай, англійскай, французскай, польскай моваў.

### СЛОЎНІК

[1]) Поруч — побач.
[2]) Хваце — хопіць.

## ДАЛУЧЭННЕ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ ДА РАСІІ Ў ЧАСЕ ПАДЗЕЛАЎ ПОЛЬШЧЫ 1)

Беларускія землі ў 1700—1709 гадах былі месцам руйнуючай вайны Польшчы і Расіі супроць шведскай арміі на чале з каралём Швецыі Карлам XII. Карл XII імкнуўся запаланіць тэрыторыі Рэчы Паспалітай і Расіі. У выніку супольных намаганняў Польшчы і Расіі, а таксама пры вялікай дапамозе беларускага і украінскага насельніцтва, шведскія войскі былі разгромлены і рэшткі іх вымушаны былі пакінуць захопленыя землі.

У часе вайны большасць беларускіх гарадоў была абрабавана і разбурана, вёскі вынішчаны і спалены. Шмат насельніцтва загінула ў барацьбе са шведскімі захопнікамі і з прычыны розных заразных хваробаў.




Доўгі час пасля вайны гаспадарка і культура Беларусі знаходзілася ў заняпадзе. Толькі ў палавіне XVIII стагоддзя наглядаюцца на беларускіх землях пэўныя зрухі і ажыўленне.

У сельскай гаспадарцы па-ранейшаму панаваў прыгон, але некаторыя магнаты і заможная шляхта штораз часцей пераводзілі сялян на частковы чынш — грашовае ападаткаванне сялян замест прыгоннай працы ў панскім фальварку і данін сельскагаспадарчымі прадуктамі і вырабамі. Чынш спрыяў хутчэйшаму развіццю сельскай гаспадаркі, зацікаўленню сялян павышэннем ураджайнасці на палетках, якія яны абраблялі, і таварна-грашовага абмену паміж вёскай і горадам. Гэта пабуджала да ажыўлення рамяство і гандаль і развіццё гарадоў і мястэчак.

Аднак палажэнне прыгонных сялян заставалася цяжкім. Многія феадалы здавалі свае маёнткі і сялян арандатарам. Арандатары, заплаціўшы ўласніку арэнду, імкнуліся выціснуць як мага болей даходу з арандуемага маёнтку. Яны павышалі колькасць дзён прыгоннай працы на паншчыне, накладалі высокія даніны грашмі і прадуктамі, жорстка каралі сялян за супраціўленне.

Павольна, але няспынна павялічвалася колькасць сельскагаспадарчай прадукцыі, якая вандравала не толькі на рынкі ўнутры краіны, але па-за яе межы. З беларускіх зямель вывозілася збожжа, валакно ільну і канапель, судабудаўнічая драўніна, паташ.

У замажнейшых маёнтках засноўваліся прадпрыемствы па вырабу неабходных у штодзённым жыцці тавараў і па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі: бровары, тартакі, цагельні, рудні для выплаўкі жалеза, шкляныя гуты, фабрычкі па вырабу сукна, палатна, шоўку, панчохаў і шмат іншых. Сярод іх найбольш вядомымі былі і славіліся сваімі вырабамі: рудня ў вёсцы Руда на Брэстчыне, шкляная гута ля Несвіжа, фабрыкі па вырабу сукна і палатна ў Ружанах, ва ўсёй тагачаснай Рэчы Паспалітай і далёка па-за межамі славіліся прыгожыя паясы, якія выраблялiся ў Слуцку.

У каралеўскіх маёнтках Гродзеншчыны іх загадчык граф Цізенгаўз заснаваў шмат прадпрыемстваў па вырабу сукна, палатна, шоўку, зброі і іншых. Працавала ў іх каля 1500 сталых рабочых, а вырабы былі высокай якасці і знаходзілі ахвотных пакупнікаў ва ўсёй Беларусі і Польшчы.

У паншчынных прадпрыемствах у асноўным працавалі прыгонныя сяляне. Дзеля павышэння вытворчасці некаторыя іх уласнікі выдавалі працуючым харчы і невялікую колькасць грошай.

У гарадах у той час, побач з цэхавым рамяством, адбываўся пераход ад рамеснай вытворчасці да заснавання багатымі купцамі і рамеснікамі мануфактур, у якіх працавалі не толькі збяднелыя рамеснікі, але і вольнаёмныя рабочыя. Такіх мануфактур было шмат у Мінску, Віцебску, Магілёве і іншых гарадах. Уся гарадская вытворчасць: і рамесніцкая, і мануфактурная, набывае таварны характар. З асяроддзя купцоў вылучаецца група новых прадпрымальнікаў — скупшчыкаў. Скупшчык забяспечваў значную колькасць рамеснікаў сыравінай, даваў ім у пазыку грошы, а затым скупоўваў ад іх вырабы з мэтай збыту купцам. Купцы развозілі гэтыя вырабы па розных гарадах, мястэчках і сёлах і там збывалі мясцовым гандлярам або насельніцтву.

Ажыўленню гандлю спрыяла аднолькавае ападаткаванне ўсіх вывазных тавараў за граніцу, незалежна ад таго, каму яны належалі: купцу, шляхцічу ці каралю. Мясцовыя купцы атрымалі перавагу ў правах над прыезджымі, замежнымі. Ва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім была ўстаноўлена адзіная сістэма меры і вагі. Былі пабудаваны новыя дарогі і палепшаны паштовыя зносіны. Запачаткавана пабудову двух вялікіх каналаў: адзін з іх злучаў рэкі Нёман, Шчару, Яселду і Прыпяць; другі — раку Прыпяць з ракою Бугам. Яны адчынялі выгодныя і танныя шляхі зносін не толькі ўнутры Беларусі, але і з пабярэжжамі Балтыйскага і Чорнага мароў.

### ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. *Якая падзея выклікала зруйнаванне беларускіх зямель ў пачатку XVIII стагоддзя?*
2. *Як развіваліся сельская гаспадарка і паншчынныя прадпрыемствы на Беларусі ў першай палавіне XVIII стагоддзя?*
3. *Што спрыяла развіццю гандлю?*

### НАВІНЫ ТЭХНІКІ І НАВУКІ

Субстанцыю болю, пры дапамозе якой арганізм алярмуе мозг аб пагрозе небяспекі, адкрыў нядаўна прафесар Гансэль з ГФР. На нядаўным кангрэсе фізіёлагаў у Вайсбадэн даказаў ён, што субстанцыя гэта даўно ўжо вядома, ствараецца яна ў крыві ў час пашкоджання тканак, гістаміна. (а-мх)

### НОВАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ АЎТАКЕФАЛІЯ

Македонія (сталіца Скопле) з'яўляецца адной з шасці саюзных рэспублік Югаславіі, займаючы тэрыторыю паміж Албаніяй, Грэцыяй і Балгарыяй. У месяцы ліпені гэтага года македонская праваслаўная ерархія пракламавала аўтакефальную македонскую праваслаўную царкву, якая дагэтуль была падпарадкавана сербскаму патрыярху. Сербскі патрыярх, Герман, аднак не прызнаў пракламаванай самастойнасці македонскай царквы і пробаваў уцягнуць у спрэчкі кіраўнікоў югаслаўскай палітыкі. Прэм'ер Югаславіі, Стамболіч, сцвердзіў, што македонцы маюць права акрэсліваць і рашаць аб сваім нацыянальным жыцці ўключна з рэлігійнымі праблемамі. Македонская камуністычная партыя падтрымала ўтварэнне нацыянальнай македонскай царквы. (ся)




Калі Раск абвясціў: «Джэнтльмены, перад вамі прэзідэнт Злучаных Штатаў!» — усе ўсталі.

Пасяджэнне нельга было назваць паспяховым. Міністры былі ўсё яшчэ ў вельмі журботным настроі. З'яўленне Роберта Кенедзі выклікала драматычную сцэну. Некалькі членаў кабінета ўскочылі са сваіх месц. Адзін з іх пачаў спачувальна паціскаць яму руку і паляпваць па спіне. Другія, у тым ліку Джонсан, нават не паварушыліся.

Пасля таго як прэзідэнт скончыў гаварыць, выступілі два чалавекі: пасол у ААН Эдлай Стывенсан, паколькі ён быў старэйшы ў партыі, і Дзін Раск, першы міністр кабінета. Іх выступленні ў асноўным былі падобныя; яны заяўлялі, што маюць намер падтрымліваць новы ўрад. Стывенсан гаварыў надзіва няўпэўнена. Гэты самы вопытны і красамоўны прамоўца з усіх прысутных напісаў шпаргалку з пяці пунктаў, якую ён прачытаў ад слова да слова. Ён напомніў прысутным, што абавязаўся падтрымліваць прэзідэнта Кенедзі на першым пасяджэнні яго кабінета, паўтарыў гэта абяцанне цяпер, заявіў, што «можа быць прыпынак у рабоце ўсёй краіны толькі на адзін момант», і сказаў, звяртаючыся да Джонсана:

— Выключныя якасці вашага характару, ваша мудрасць і вопыт — блаславенне для нашай краіны ў гэты крытычны час, і мы цалкам спадзяёмся на ваша кіраўніцтва.

Раск з гэткім жа захапленнем усхваляваў Джонсана.

Пасля абмену рэплікамі паміж Джонсанам і Раскам наконт заяў аб адстаўцы прэзідэнт папрасіў усіх падаць да панядзелка рэкамендацыі сваіх ведамстваў. Затым усе разышліся. Нічога не было вырашана, ды і наогул кожнаму з іх немагчыма было пайсці ў гэты дзень з усведамленнем нечага дасягнутага. Нават Джонсан, які быў у захапленні ад выступленняў Раска і Стывенсана, здавалася, быў расчараваны; заўвагі, якія ён зрабіў пазней у той жа дзень, сведчылі аб тым, што ён разлічваў на большае. Бандзі сказаў, што гэта было «шэранькае пасяджэннечка». Міністр працы Уілард Уіртц падумаў, што яно было «жахлівым» і «амаль аўтаматычным»; другі член кабінета, які чакаў, што прэзідэнт будзе «энергічным і ўпэўненым», прыйшоў да заключэння, што пасяджэнне было «ў вышэйшай ступені незадавальняючым», а адзін член кабінета нават вырашыў пагутарыць з прэзідэнтам пра гэта. Адзін з памочнікаў Джонсана, Кліф Картэр, увёў міністра да прэзідэнта, і міністр пачаў энергічна рэкамендаваць Джонсану выступіць спачатку перад народам, а потым перад кангрэсам. На здзіўленне міністра, за гэтыя некалькі мінут, што прайшлі пасля заканчэння пасяджэння, паводзіны Джонсана ў корані змяніліся. Гэта была адна з яго здзіўляючых маланкавых змен: у зале пасяджэнняў кабінета ён здаваўся няўпэўненым, а цяпер, як адзначыў міністр у сваім дзённіку, «няўпэўненасць, здаецца, знікла, ён адчуваў сябе больш свабодна... Сіла, энергія і ўпэўненасць лідэра большасці Ліндана Джонсана, здавалася, зноў вярнуліся да яго».

Новы прэзідэнт гаварыў з высакапастаўленым дзеячом, які напісаў гэтыя словы, зусім адкрыта аб неладах паміж ім і міністрам юстыцыі. Яго «галоўная праблема», заўважыў прэзідэнт, — гэта Боб Кенедзі. Ён быў перакананы, што Кенедзі спазніўся на пасяджэнне наўмысна, і сцвярджаў, што Кенедзі хацеў унізіць яго, заявіўшы «аднаму саветніку»: «Мы не ўвойдзем, пакуль ён не сядзе на сваё месца». (Кенедзі гэта адмаўляе. Калі яму перадалі гэтыя словы прэзідэнта, Кенедзі спачатку выказаў здзіўленне, а затым гэта яго забавіла).

Гэта абвінавачанне, відаць, несправядлівае, але яно, бадай, было немінучым вынікам узаемаадносін паміж Джонсанам і Робертам Кенедзі, або больш дакладна кажучы, узаемаадносін паміж некаторымі з іх саветнікаў. Яшчэ з часу з'езду ў Лос-Анжэласе ў 1960 годзе адносіны паміж двума дзеячамі не раз псаваліся ў выніку непаразуменняў, якія звычайна ўзнікалі па віне таго ці іншага з іх «памочнікаў». Так, віцэ-прэзідэнт быў перакананы, што міністр юстыцыі не можа дараваць яму крытычных заўваг, якія ён зрабіў у Лос-Анжэласе ў адрас Джозефа Кенедзі. Больш за ўсё дзіўна, што Роберт Кенедзі не толькі не чуў гэтых крытычных заўваг, але і не чытаў пра іх. Прыхільнікі ж Джонсана былі перакананы, што Боб Кенедзі не любіць іх лідэра. Не паспеў урад Джонсана рас-

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## 10 ГОД СОЛТЫСАМ

У Белках ужо 10 гадоў працуе солтысам Аляксандр Раеўскі. Сваю ганаровую функцыю выконвае ён вельмі добра. Клапоціцца аб справы вёскі, адстаівае іх у прэзідыуме ГРН у Трасцянцы. 1-га снежня ў вёсцы адбыўся справаздачны сход, на якім солтыс Аляксандр Раеўскі гаварыў аб дасягненнях і патрэбах Белак.

Аднавяскоўцы, закранаючы вырашаныя і нявырашаныя (камасацыя зямлі) праблемы вёскі, падкрэслівалі ахвярнасць у грамадскай працы свайго солтыса. Падчас выбараў новага солтыса ўсе сяляне прагаласавалі за кандыдатурай Аляксандра Раеўскага.

Сход закончыўся пажаданнямі прысутных, змест якіх зводзіўся да наступнага: каб солтыс Раеўскі далей не горш працаваў, як у мінулых кадэнцыях.

**М. Л.**
Гайнаўскі павет




У Вольцы Тэрахоўскай на Гайнаўшчыне згарэла спулдзельчая абора, у якой спулдзельня прадукцыйная з Волькі Нурэцкай у Сямяціцкім павеце гадуе кураняты. Разам з аборай згарэла 12 500 штук аднотыднёвых куранят. Пажар успыхнуў ад электрычнай лямпачкі, якая дакраналася да саламянай сечкі. Затраты спулдзельні з Волькі Нурэцкай ацэньваюць на 500 тысяч злотых.

*

Грамадзянка Літоўскай ССР Нізелеона Францкевічайтэ з Каўнаса, якая часова прабывала ў Беластоку, зайшла ў Беластоцкі ПДТ за пакупкамі. Тут з яе ручной торбачкі нейкі злодзей выцягнуў партфель з грашыма: 10 долараў ЗША, 20 савецкіх рублёў і 2 300 польскіх залатовак.

*

Ноччу з 3-га на 4-га снежня г. г. нейкі злодзей дабраўся ў гасподу на станцыі Нурэц у Сямяціцкім павеце і забраў з касы 11 600 зл.

*

Андрэй Марчук, з вёскі Чыжыкі ў Гайнаўскім павеце, год 55, 3 снежня г. г. наведаў Піліпа Леўчука з вёскі Бельшчына. За вячэрай яны парадачна папілі і пакладіся спаць. На другі дзень раніцай, на сваё здзіўленне, Піліп Лёўчук застаў у пасцелі ужо халоднае цела свайго госця Андрэя Марчука. Акалалася, што ад гарэлкі ў яго не вытрымала сэрца.

*

Ноччу 4-га снежня нейкі злодзей выбіў выставачную шыбу ў краме ВСС № 27 у Гайнаўцы на вуліцы Дзяржынскага і забраў 10 жаночых світраў на суму ў 4 000 зл.

*

Мікалай Наумчык з Катлоў у Бельскім павеце 2 снежня гг. на вуліцы ў Бельску вырваў з рук вучаніцы Басі Мячкоўскай турыстычную торбачку з кніжкамі і іншымі школьнымі прыладамі. Гэтага самага дня М. Наумчук украў яшчэ ў Пятра Федарука матацыкл «ВСК». Міліцыя арыштавала зладзея.

**Асака**




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Мне 18 год. Я з вёскі, а вучуся ў сярэдняй школе ў горадзе. Аднойчы я была на забаве і пад канец забавы пазнаёмілася з Уладкам. Гэта хлопец ужо некалькі год пасля адбыцця вайсковай службы. Спачатку я адносілася да яго па-сяброўску, як да кожнага іншага хлопца. Аднак потым аказалася, што ўсё больш аб ім думаю. Кожную суботу з ім сустракалася, аднак даўжэй ніколі з ім не гаварыла. Уладак папрасіў мяне, каб сустрэцца дзе вечарам, аднак я саромелася з ім сустракацца. Але раз згадзілася пайсці ў кіно.

Я пайшла ў кіно з сяброўкамі, а ідучы па дарозе сустрэла свайго калегу, які папрасіў мяне купіць білет яму ў кіно, бо ён не мае часу. Таму нашы месцы з ім былі побач. Перад пачаткам фільма ў кіно ўвайшоў Уладак з сябрам. Ён прывітаўся са мною і заняў месца ў нас ззаду. Пасля фільма я падышла да Уладка, аднак ён сказаў, што не выпадае мне пакінуць хлопца самога, з якім я прыйшла, адвярнуўся і пайшоў. Ад таго часу я думаю аб ім усё часцей і не магу вучыцца. Што рабіць, каб Уладак дрэнна аба мне не падумаў, я ж ведаю, што я яму падабаюся. Чакаю парады.

**Оля з Гайнаўшчыны**

**Дарагая Оля!**

Напэўна ты Уладку падабалася, калі ён прапанаваў сустрэцца і пайсці ў кіно. І гэта, што ён так адказаў табе пасля фільма, напэўна было крыху зайздрасці, хоць ён меў рацыю, бо не ведаў, што хлопец, які сядзеў з табой, проста сустрэўся прыпадкова. Дрэнна толькі тое, што гэта ўсё перашкаджае ў навуцы. Перад усім важна навука, а пасля Уладак. Ведаю, што гэта цяжка прыходзіцца, хоць ты думаеш сур'ёзна аб навуцы. Таму раю табе пры сустрэчы з Уладкам самой запрапанаваць пайсці ў кіно, ці ў кавярню. Ініцыятыва дзяўчыны таксама павінна быць, не павінна толькі чакаць на яго прапанову. У гэтым жа нічога дрэннага. А калі ўжо дойдзе да сустрэчы, пры аказіі ў размове можаш далікатна напомніць, што гэта твой сябра і што ты выпадкова з ім сустрэлася (прасіў жа цябе купіць білет, бо не меў часу). Калі ты Уладку падабаешся, усё будзе добра. А табе гэта выйдзе на карысць, бо тады напэўна добра прыложышся да навукі. Аднак усё роўна, як бы не скончылася гэтая справа, раю табе сур'ёзна ўзяцца за навуку, бо ўжо ж паўгоддзе. Калі будзеш добра вучыцца, добра сябе паводзіць, дык і Уладак будзе меў аб табе добрае меркаванне.

Жадаю ўсяго добрага
**Сэрцайка**

## КАЛЕКТЫВЫ СПР



**Арганізатары «Злёту»: злева Яўгень Янцэвіч, Віталіс Назарук і Антон Кондрат.**

На Гайнаўшчыне апрача школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі існуе 60 калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Моладзь у гэтых калектывах атрымоўвае тэарэтычныя веды, а летам праводзіць конкурсы сельскагаспадарчых культур і жывёлагадоўлі. Удзельнікі конкурсу па жывёлагадоўлі закупілі больш 100 штук добрых мацёраў, каб гэтым паправіць якасць пагалоўя свіней. Маладыя гаспадары закупілі таксама высокай якасці насення бульбы, люцэрны, пастэўнай капусты, чырвонай канюшыны і ячменю. У кастрычніку адбыўся ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы «Злёт» перадавых калектываў СПР. Падсумаванне працы гэтых калектываў зрабіў Віталіс Назарук.

Першае месца ў конкурсе атрымала моладзь з Курашава, другое месца з Тарнопаля, а трэцяе — калектыў з Кленік.

Усе ўзнагароджаныя калектывы атрымалі бібліятэкі на суму 1500 злотых.

У аглядах індывідуальных першае месца атрымаў Ігар Салэнга з Ліпін, другое — Антон Васілюк з Курашава і трэцяе месца заняла Вера Мікалаюк з Кленік.

Тэкст і фота
В. Назарук
Гайнаўка



**Намеснік старшыні Павятовай рады нарадовай Аляксандр Рашкевіч уручае ўзнагароду Ігару Салэнгу.**

## ГОНАР ГАСПАДАРА



Мець добрага прыгожага каня — гэта гонар гаспадару. Добры гаспадар, як устане нават найраней, дык ён перш йдзе даць каню есці. Добры гаспадар не крыўдзіць каня, не б'е яго, не накладае на воз так, каб конь не пацягнуў.

У Новай Волі (Беластоцкі павет) найлепшага, найпрыгажэйшага каня мае Сцяпан Філіпчук. Паглядзеўшы на яго каня, кожны скажа, што знаходзіцца ён у добрых руках. (мх)

# КІНО

**Праграма**
**на 26—31. XII. 1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Zielone światło'' (radz.), 26—27. „BS-38-15'' (NRD), 28—29. „Bicz Bozy'' (polski), 30—31.

**Кляшчэлі**

„Mroźny poranek'' (radz.), 26—27. „Wąż morski z Loch Nes'' (USA), 28—29. „Sabrina'' (USA), 30—31.

**Дубіны**

„Zielone światło'' (radz.), „Sami na wyspie'' (jugosł.) 30—31.

**Нараўка**

„Iwan Groźny'' (radz.), I i II s. 27—31.

**Нарва**

„Zejście do piekła'' (polski), „Człowiek z karabinem'' (radz.), 27—31.

**Чыжы**

„Matczyne serce'' (radz.), „Pierwszy dzień wolności'' (polski), 27—31.

**Дубічы Царкоўныя**

„Szkoła grzeszników'' (czeski), „Kochajmy syrenki'' (polski), 27—31.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Uiór z Morsville'' (czeski), „Zwyczajny faszyzm'' (radz.), 27—31.

**Орля**

„Pancernik Potiomkin'' (radziecki), „Pluton 317'' (franc.), 27—31.

**Райск**

„Biała pani'' (czeski), „Zerwany most'' (polski), 27—31.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Protegowany'' (jugosł.), „Katastrofa'' (polski), 26—29.

**Міхалова**

„Dr Fabrizus działa'' (NRD), 26—27. „Gwiazdy w morzu'' (radziecki), 28—29. „Jovita'' (polski), 30—31.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Bitwa nad Wołgą'' (szwedzki), 26—27. „Foto Haber'' (węgierski), 28—29. „Druga młodość cioci'' (węgierski), 30—31.

**Шудзялава**

„Wrzesień 1939'' (polski), „Anioł błogosławionej śmierci'' (czeski), 27—31.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Iwan Groźny'' (radz.), I i II s. 27—31.

**Новы Двор**

„Umarli milczą'' (NRD), I i II s. 30—31.

**Ліпск**

„Kochajmy syrenki'' (polski), „Matczyne serce'' (radz.), 30—31.

пачаць работу, як друк пачаў падрабязна распісваць «варожасць» паміж гэтымі двума дзеячамі. Вядома, нельга адмаўляць, што іх тэмперамент і манера трымацца былі зусім розныя. Тое ж самае можна было сказаць пра Джона Кенедзі і Ліндана Джонсана.

У гэтыя дні прэзідэнт усяляк даваў зразумець, што ён можа захаваць каманду Кенедзі ў непарушнасці. І калі ў яго прыбавілася ўпэўненасці ў сябе, ён зразумеў, што яму прыйдзецца падабраць уласную каманду. Пасля, і асабліва пасля таго, як у выніку выбараў 1964 года ён застаўся на пасадзе прэзідэнта, Джонсан, здавалася, зусім забыў. што калісьці прасіў памочнікаў Кенедзі аб падтрымцы. Адно ўпамінанне іх імён раздражняла яго. А праз год яго ўжо раздражняла ўсё, што напаміналa пра Кенедзі. І калі які-небудзь агент сакрэтнай службы ці шафёр Белага дома замацоўваў свой гальштук заціскай з адлюстраваннем тарпеднага катэра «РТ-109»[1]), ён рызыкаваў выклікаць прэзідэнцкі гнеў.

...Едучы ў машыне за лафетам, на якім везлі труну з целам Джона Кенедзі да Капітолія, пані Кенедзі раптам сказала:

— Ах, Ліндан (так у першы і ў апошні раз яна парушыла сваё абяцанне не называць яго па імені), — які жахлівы пачатак для вас!

Новы прэзідэнт нічога не адказаў. Усю дарогу ён і пані Джонсан маўчалі.

Пасля жалобных прамоў у Ратондзе Ліндан Джонсан выступіў наперад, каб па традыцыі пакласці вянок ад прэзідэнта Злучаных Штатаў, пастаяў з хвіліну, молячыся пра сябе, і вярнуўся на сваё месца. Калі не лічыць прыглушанага плачу аднаго сержанта, якога два палкоўнікі вывелі ў калідор, у вялікай зале Ратонды панавала магільная цішыня. На гэтым цырымонія закончылася, прайшлі назначаныя для яе 14 мінут.

Труну паднялі і панеслі да выхаду. Аркестр зайграў «Салют камандзіру». Гэты гімн выконваўся для прэзідэнта Кенедзі ў апошні раз. Жаклін Кенедзі, успомніўшы, як хлопчык любіў гуляць у салдацікі з бацькам, сказала:

— Джон, можаш аддаць чэсць тату і развітацца з ім.

Маленькая правая ручка хутка паднялася, твар Роберта Кенедзі, які стаяў за ім, сказіўся ад болю. На вочы ўсіх прысутных, як па камандзе, навярнуліся слёзы. Ні адно з уражанняў гэтага панядзелка не ўрэзалася ў іх памяць з такой сілай, як гэты салют маленькага Джона.

[1]) «РТ-109» — абазначэнне тарпеднага катэра, камандзірам якога ў 1943 годзе на Ціхім акіяне быў памёршы прэзідэнт Джон Ф. Кенедзі.

**КАНЕЦ**



НЕ АДРЫВАЮЧЫ АЛОЎКА

Адказ на загадку «Паспрабуйце», змешчаную на 8 старонцы.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3. NAKŁAD 7897



 

# Абслугоўванне перш за ўсё

— Добры дзень! — гэтыя словы, сказаныя мною пры ўваходзе ў майстэрню хімчысткі, сталі пачаткам катастрофы, што здарылася ў мінулым квартале.

— Маё шанаванне! — усміхнуўся ўсім тварам загадчык атэлье. — Чым наша вядомая фірма можа служыць?

— Я хацеў бы аддаць у чыстку світэр.

— Дазвольце сардэчна павіншаваць вас з прыходам іменна ў нашу хімчыстку! Мы чысцім цудоўным аргенцінскім метадам, выкарыстоўваючы найноўшыя швейцарскія сродкі, якія гарантуюць адзенню чысціню і трываласць. А гэта што? О, якая пляма на вашым цудоўным плашчы! А вось і другая, трэцяя! — загадчык з агідай дакрануўся пальцам да майго плашча.

— Ды ведаеце, — збянтэжана растлумачыў я, — едзеш у трамваі, а там людзі вязуць бог ведае што...

— Будзьце ласкавы, скіньце плашчык і пакіньце яго ў руках нашых спецыялістаў. Яны вернуць яму першапачатковую чысціню.

— Хм, можа вы і маеце рацыю...

— О, а гэта што за сляды на штрыфелях вашага выдатна пашытага пінжачка? — працягваў рашучым голасам загадчык. — Калі маё вопытнае вока мяне не падводзіць, гэта будзе вішнёвачка, соус кумберленд і нешта яшчэ...

— Сардзінка ў масле, — дадаў я.

— У гэтым пінжаку я вас адсюль выпусціць не магу. Перадайце яго нам без усялякай апаскі. Я выпісваю квітанцыю...

— На праміны бог прашу, не раздзявайце мяне! Як жа я вярнуся дамоў? — спрабаваў я абараняцца.

— Я пазычу вам пад залог піжамку. Вельмі модны фасон.

А дазвольце даведацца, што гэта ў вас за скрутачак? О, якая прыгожая сукеначка!

— Вам падабаецца? Гэта падарунак для жонкі. Сюрпрыз.

Загадчык паглядзеў на мяне з дакорам.

— Я палюбіў вас усёй душой і толькі таму вымушан устрымаць вас ад гэтага кроку! Паглядзіце, якая гэта сукенка пакамечаная і шэрая. Яе трэба асвяжыць!

— Як вы можаце, — крыкнуў я з абурэннем. — Я ж яе толькі што купіў у магазіне.

— Паважаны! — скрывіўся з нездавальненнем загадчык. — Вы калі-небудзь бачылі магазінны склад і беспарадак, які там пануе? Ах, не? Тады няма чаго гаварыць. Добра, я ўпісаў сукенку. Калі ласка, вось квітанцыя, увогуле 450 злотых, уключаючы залог за піжаму.

— Вы мяне не толькі распранулі, але і абабралі! У наступны раз я прыйду да вас у плаўках! Да пабачэння... Пачакайце, — я павярнуўся з парога. — А калі прыйсці за рэчамі?

— Заглядвайце... — адказаў загадчык, раскланьваючыся.

— Што гэта значыць: заглядвайце?! А тэрмін?

— Смешна! — пакрыўдзіўся загадчык. — Закідалі нас кучай ануч, а цяпер хацелі б атрымаць усё заўтра! Ох, гэтыя кліенты!

І сёння яшчэ можна ўбачыць, як я, апрануты ў ядавіта-зялёную піжаму, упрыгожаную ліловымі цюльпанамі, прабіраюся бакавымі вулічкамі ў хімчыстку. У дадатак да ўсяго мяне пакінула жонка, пакрыўдзіўшыся за тое, што я не прынёс ёй падарунку ў пятую гадавіну вяселля...

ЕЖЫ ЯСІНСКІ



## ПАДЗЯКА

Кажа бацька лайдаку:  
— Што ляжыш ты на баку?  
Як не сорамна, сынок,  
Цэлы дзень адлежваць бок?  
— Дзякуй, тата дарагі,  
Павярнуся на другі.

**Сямён Пацёмкін**

## НЕ СПЯШАЙСЯ

Марак, які пражыў пасля караблекрушэння некалькі год на бязлюдным выспе, прыйшоў у неапісанае захапленне, убачыўшы карабель, які набліжаўся да вострава. З карабля спусцілі шлюпку, і афіцэр, які прыбыў на ёй, уручыў мараку стос газет.

— Капітан прапануе, каб вы спачатку даведаліся, што робіцца на гэтым вар'яцкім свеце, а затым ужо вырашалі самі, ці хочаце вы, каб мы вас выратавалі.

## ПАСПРАБУЙЦЕ

Гэты смешны твар трэба нарысаваць, не адрываючы алоўка ад паперы і не перакрыжоўваючы нідзе ліній. Паспрабуйце. Гэта не так проста, як здаецца на першы погляд.







Няма ліха без дабра.

## ЧАМУ

— Мама, чаму ў нашага таты так мала валос?  
— Таму, што ён многа думае.  
— А чаму ў цябе валасы такія густыя?

— Мой муж ніколі не забывае, што яму нельга піць!




— Калі ж ён з'явіцца? Ужо цэлую гадзіну чакаю.

## СЯРОД СЛАВУТАСЦЕЙ

У тэатры паблізу ад Жэневы ў час прадстаўлення п'есы Вальтэра «Выратаваны Рым» заснуў прэзідэнт Мантэск'е. Аўтар запусціў у яго капелюшом і заўважыў:

— Прэзідэнт думае, што ён знаходзіцца на пасяджэнні.

## СУПАКОІЎ

Прыйшлі найміты да пана паскардзіцца на дрэннае харчаванне. А ён у той час якраз абедаў.

— Паглядзіце, ваша мосць, — кажуць найміты. — Кормяць нас такою стравай, што толькі свінням яе есці. Хутка пасля такой ежы рохкаць пачнем.

— Не хвалюйцеся, дабрадзеі, — спакойна адказаў пан, выціраючы тлустыя губы. — Нічога з вамі не будзе. Я ўсё жыццё ем смажаных пеўняў, але ні разу не закукарэкаў...

## КАЛІ

— Калі шэф не возьме назад слоў, якія ён сказаў учора вечарам, я не буду больш тут працаваць.

— Дык што ж ён сказаў?

— Ён сказаў: «Шукайце іншае месца!»

## ПАМЫЛКА

— Пане Кавальскі, жонка просіць вас да тэлефона...

— Просіць? Гэта не мая жонка!

## У ШКОЛЕ

— Міхась, чаму ты ўчора не быў у школе?  
— Мая сястра вянчалася.  
— Добра, толькі глядзі, каб гэтага больш не паўтаралася.

## ВЕРАБЕЙ І ШПАКОЎНЯ

Верабей захапіў шпакоўню і не пусціў гаспадара нават на парог. Пакуль бяздомны Шпак лётаў па розных інстанцыях, каб дамагчыся свайго, Вераб'ю выдалі ордэр і прапісалі яго з вераб'іхай у шпакоўні.

Пра Шпака таксама не забыліся. Цецярук загадаў запісаць яго ў чаргу на атрыманне кватэры.

## ТРАФЕЙНЫ СЫР

Вароне Бог паслаў кавалак сыру. Узляцеўшы на яліну, яна гатова была пакаштаваць цудоўны дэлікатэс. Ліса ўбачыла гэта і пачала гаварыць зусім не па Крылову: «Варона, у адной аўтарытэтнай лясной установе мне сказалі, што неўзабаве табе даручаць кіраваць птушыным ансамблем песні і танца». Ад вялікай радасці Варона разявіла дзюбу і закрычала: «Ну, тады я скар-кар-кар-ачу Салоўку, Жаваранка, Шчыгла». Сыр, як і трэба было чакаць, паляцеў долу. Ліса дамаглася свайго. А Вароне і да гэтага часу сніцца партфель кіраўніка птушынага ансамбля.

**Я. Герцовіч**

## ПРАЎДА

Муж — жонцы:

— Мая дарагая, няўжо матэрыял на маю куртку каштуе дзве тысячы злотых?

— Сапраўды каштуе толькі. А з астатку гэтага матэрыялу я думаю пашыць сабе сукенку.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Іркі і Зіны з вёскі Астраўкі, Беластоцкага павета, Данусі Грыка з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, Кіры Мінюк з Бельска-Падляшскага, Уладзіміра Тарасевіча і Станіслава Дамброўскага з Бялявіч, Беластоцкага павета, змяшчаем польскую песню п. з.

## Nigdy więcej

Tak mało brakowało, by to,  
co najpiękniejsze między nami,  
nigdy już nie wróciło...  
Dlaczego tak zrobiłaś?

Nigdy więcej  
nie patrz na mnie  
takim wzrokiem.  
Nigdy więcej  
nie mów do mnie,  
że nie kochasz...  
Nigdy więcej  
nie zatruwaj  
słów goryczą,  
nigdy więcej  
mnie już nie karz  
martwą ciszą...  
Nigdy więcej  
nie patrz na mnie  
takim wzrokiem.  
Nigdy więcej  
nie miej takich  
zimnych oczu...  
Miłość jeszcze żyje w nas,  
jeszcze się nie zamknął czas.  
Nigdy więcej  
nie patrz na mnie  
tak jak dziś...  
Nigdy więcej  
nie patrz na mnie  
takim wzrokiem.  
Nigdy więcej  
już nie podnoś  
na mnie głosu...  
Nigdy więcej  
nie ryzykuj  
jednym słowem,  
mogę później  
nie zapomnieć,  
co mi powiesz...  
Nigdy więcej  
nie patrz na mnie  
takim wzrokiem.  
Nigdy więcej  
nie miej takich  
zimnych oczu...  
Miłość jeszcze żyje w nas,  
jeszcze się nie zamknął czas.  
Nigdy więcej  
nie patrz na mnie  
tak jak dziś...



## ТАКСАМА «СПОРТ»

За гэтымі спаборніцтвамі ў Палацы спорту італьянскага горада Варэзе ўсхвалявана назіралі гледачы. Час кожнага з 22 удзельнікаў быў старанна зарэгістраваны спецыяльным суддзёй з дакладнасцю да адной дзесятай секунды. Перамог сіньёр Джані Галееці. Ён... курыў люльку, запраўленую трыма грамамі тытуню, цэлыя 91 мінуту 9,4 секунды!

## ПЕРАКАНАЎЧЫ ДОВАД

Лейбарыст Бен Уайтэкер, адказваючы на пярэчанні прыхільнікаў сегрэгацыі з выпадку набору неграў у пажарную службу Лондана, заўважыў: «Я мяркую, што нават заўзяты расіст не будзе пярэчыць супраць таго, каб быць выратаваным з агню пажарнікам, у якога чорны колер скуры».

## ЖАДАНЫ ГОСЦЬ

Як паведамляе гумарыстычны балгарскі часопіс «Стршэл», адзін вядомы амерыканскі пісьменнік, перш чым выехаць у Далес на сустрэчу з чытачамі, пазваніў у гасцініцу і запытаў, ці можа ён прыехаць з сабакам. Гаспадар атэля адказаў: «Я не бачыў сабаку, які б засынаў у ложку з запаленай цыгарай у зубах і псаваў бы мэблю. Няма сабакі, які б, ад'язджаючы, забіраў з сабой ручнікі і навалачкі. Таму з задавальненнем прымем вашага сабаку!»




Злодзея ў турме не было каму адведаць: яго сябры таксама сядзелі.